ЗАСНАВАНА 1 студзеня 1982 года

# ТРЫБУНА ПРАЦЫ

Грамадска-палітычная ГАЗЕТА
БАБРУЙСКАГА раёна

№58 (2465) Серада, 26 ліпеня 2000 года Цана 60 руб.

*Жніво — 2000*

# ПАЧАТАК ПАКЛАДЗЕНЫ. ХАЙ ЯМУ – УДАЛЫ ПРАЦЯГ!





*Пра тое, што такое жніўная пара, гэтыя людзі ведаюць не па чутках. Камбайнеры Цімафей Цімафеевіч Алёхна з саўгаса "Пятровічы" і Аркадзь Аркадзьевіч Алісеенка з калгаса імя Неўскага не першы год увіхаюцца на хлебнай ніве.*

*Першы сочыць за тым, каб тэхніка заўсёды працавала рытмічна, не прастойвала ні мінуты. Другі таксама перажывае, каб было як мага больш светлых дзён, а значыць, своечасова і з меншымі стратамі была праведзена ўборка. Галоўныя якасці абодвух механізатараў — вопыт, прадбачлівасць, адказнасць асабліва каштоўныя ў гэты гарачы час.*

Фота Б. ВАРФАЛАМЕЕВА.

## Уборка збожжавых і зернебабовых у гаспадарках раёна

па стану на 25 ліпеня 2000 года

| Назва гаспадарак: | План (га) | Убрана ў % да плана | Ураджайнасць (цнт/га) |
|---|---|---|---|
| *Калгасы* | | | |
| "Гігант" | 1655 | 21 | 33,4 |
| "Перамога" | 654 | 15 | 19,3 |
| Імя Някрасава | 636 | 13 | 27,6 |
| Імя А.Неўскага | 1410 | 8,7 | 22,4 |
| Імя XXII з'езда КПСС | 780 | 8,7 | 19,0 |
| "Прагрэс" | 857 | 7,2 | 16,3 |
| Імя Мічурына | 960 | 6,6 | 23,2 |
| Імя Фрунзе | 462 | 3,2 | 19,6 |
| "Шлях Леніна" | 1086 | 2,5 | 21,9 |
| Імя Дзяржынскага | 1017 | 2 | 23,0 |
| Імя Пушкіна | 1489 | 1,5 | 18,5 |
| "Сцяг камуны" | 886 | 0,3 | 16,6 |
| "Гарохаўскі" | 1030 | — | — |
| *Саўгасы* | | | |
| Птушкафабрыка | 529 | 17,2 | 15,3 |
| "Дойнічава" | 1043 | 4,3 | 20,4 |
| "Бабруйскі" | 1310 | 1,4 | 10,2 |
| Імя Леніна | 1310 | 0,4 | 19,0 |
| "Осава" | 1041 | — | — |
| АГФ "Бярэзіна" | 553 | — | — |
| "Пятровічы" | 358 | — | — |
| "Кісялевічы" | 15 | — | — |
| Усяго па раёну | 19081 | 6,8 | 23,5 |

*Расказы пра камбайнераў*

# ПАБОЛЬШ БЫ СОНЕЧНЫХ ПРОМНЯЎ...

На пачатку жніва трэба пабольш сонечных промняў на палеткі, а замест іх дзень у дзень палівае дожджык. І паспрабуй разгарнуцца... Хаця, як лічыць Віктар Рыгоравіч Сіліч, можна і ў такіх умовах працаваць гэтак жа старанна, як і ў былыя, больш спрыяльныя гады. Сёлета, напрыклад, у Плёсах, ды і ці толькі тут з нейкай невыказанай трывогай чакалі пажніўных дзён, усё пазіралі на неба і гадалі, калі ж распачаць жніво. А яно прыйшло, як заўсёды, нечакана і прыспешліва. Адступаць няма як. Трэба і ў такіх умовах убіраць хлеб. Віктар Рыгоравіч, як потым не раз адзначаў пра сябе, таксама па-хлебаробску хваляваўся. Такі ж вялікая праца праведзена! Аралі, сеялі, потым даглядалі пасевы... А тут майскія замаразкі колькі нерваў папсавалі. І зноў з надвор'ем не пашанцавала, калі няшчадна паліла сонца. Але нягледзячы на ўсе гэтыя прыродныя катаклізмы, ураджай вырасціў у калгасе неблагі.

Ён сам не раз бываў на палетках, уласнымі вачыма бачыў, як цягнулася да неба пшаніца, як наліваўся жытнёвы колас... Хлебаробскае сэрца не надурыш, не правядзеш. І ў гэтым Віктар Рыгоравіч пераконваўся не раз. Добра, што ў людзей ёсць адказнасць за лёс вырашчанага ўраджаю. Сам ён хоць і не працуе непасрэдна на палетках, але ж без яговых рук, як лічыць, ніяк нельга. Працуючы ў калгасе слесарам, Віктар Рыгоравіч прыкладае нямала сіл і намаганняў для таго, каб сельскагаспадарчая тэхніка заўсёды знаходзілася ў спраўнасці. І, бадай, няма такога перыяду, каб у яго не было важных і неадкладных спраў.

Асабліва даводзіцца ўвіхацца напярэдадні вясенне-палявых работ. Раней было ўсё не так складана і мудрагеліста. Праблем з запчасткамі не існавала. Слясарная служба гаспадаркі спраўлялася з усімі вытворчымі заданнямі. Цяпер жа даводзіцца разлічваць толькі на ўласныя сілы. З фінансамі ў калгасе не густа. Старшыня просіць рамонтнікаў праяўляць ашчаднасць і знаходлівасць. І яны стараюцца, не марнуюць дарэмна час. Лічы, увесь сельскагаспадарчы інвентар прайшоў праз ягоныя рукі. Але найбольш увіхаўся каля свайго "Дона". Гэта і зразумела. Кожны раз з надыходам жніва Віктар Рыгоравіч не ведае спачыну, калі рыхтуе камбайн да выхаду ў поле. Будучы слесарам, як кажуць, ад Бога, Сіліч, здаецца, не толькі ведае ўсе прафесійныя сакрэты, ён выдытна іх выкарыстоўвае ў сваёй практычнай дзейнасці. Вось чаму без асаблівага напружання падрыхтаваў камбайн да выхаду ў поле. Вядома, машына з гадамі старэе, многія вузлы і механізмы патрабуюць не толькі рамонту, але і, на добры толк, замены. Сіліч бачыць, як стараецца старшыня дастаць запчасткі, як не вылазіць гадзінамі з машыны інжынер, шукаючы тыя ці іншыя дэталі. Грошай катастрафічна не хапае. Вось і варожаць каля сваіх машын хлебаробы.

Сёлета ў Плёсах належыць убраць толькі зерневых звыш 600 гектараў. Плюс бабовыя... Для гэтых мэт у гаспадарцы працуюць сёння на палетках пяць збожжаўборачных камбайнаў. Распачалі ўборку хлеба 17 ліпеня. Дачакаўшыся спрыяльнай хвіліны, усе пяць камбайнаў, быццам і не было таго напружання, якое панавала падчас падрыхтоўкі да жніва, выйшлі ў поле. Напачатку "прыцэралі" машыны на тых участках, дзе азімая пшаніца крыху падмерзла і "падгарэла"... Ці трэба гаварыць аб тым, з якім хваляваннем распачыналася жніво. Віктар Сіліч таксама выпрабоўваў пэўную трывогу. А раптам, думалася, сапсуецца "Дон" у самы адказны момант. Але камбайн ішоў па полі роўна і рэзаў збажыну так, бы і не было перад гэтым гадавога прастою.

На 20 ліпеня ў "Перамозе" было ўбрана каля 30-ці гектараў пшаніцы і намалочана тон 15-17 хлеба. Зерне пераўвільготнена. Але выручае КЗС. Віды на ўраджай? Як мяркуе Віктар Рыгоравіч, у цэлым у калгасе павінны выйсці на круг да 22-24 цэнтнераў. І хаця першыя намалоты не вельмі ўражваюць, але жніво яшчэ наперадзе. Гэтымі днямі ўборку распачынаюць недзе каля 12-ці гадзін дня і завяршаюць не раней 20-ці гадзін. І хаця з гаруча-змазачнымі матэрыяламі адчуваецца напружанне, але ў калгасе стараюцца не марудзіць. Цяпер камбайны пасля рабочага дня вяртаюцца на стан. А вось калі пачнуць убіраць хлябы на аддаленых участках, то тэхніка будзе паркавацца на месцы ў мэтах эканоміі.

Сіліч любіць жніўную пару, якая нібы падсумоўвае цэлы год. І калі хлеб убраны ўжо, пакоіцца ў калгасных свірнах, то і на душы адлягае. Але да таго ўрачыстага моманту яшчэ далёка. Сёння стаіць адна задача: убраць зерне хутка і без страт. У гэтым накірунку і працуе Віктар Рыгоравіч са сваімі сябрамі.

Якаў АБРАМОВІЧ.

*В пресс-центре райисполкома*

# ДЕНЬ ЗА ДНЕМ

Прошло очередное заседание районного исполнительного комитета, на котором были рассмотрены итоги работы отраслей народного хозяйства района за первое полугодие 2000 года, а также исполнение бюджета района за этот период, заслушан вопрос о работе Вишневского сельисполкома в свете требований соответствующего закона "О местном управлении и самоуправлении в Республике Беларусь".

* * *

На прошлой неделе председатель районного исполнительного комитета М.П. Леваков провел совещание с руководителями хозяйств, председателями сельисполкомов, участковыми инспекторами по вопросам укрепления законности и правопорядка, предотвращения хищений государственного и колхозного имущества.

* * *

В воскресенье прихожане старообрядческой религиозной общины деревни Богушовка праздновали 140-летие старообрядческой церкви "Покрова Святой Богородицы".

На торжественном богослужении присутствовали представители старообрядческих общин из Латвии, городов Полоцка, Минска и Бобруйска.

* * *

В г. Славгороде прошел областной фестиваль народной частушки, в котором принял участие семейный ансамбль Каковок из поселка Туголица. Продемонстрировав прекрасные вокальные и артистические данные, наши земляки награждены дипломом II-й степени, ценными подарками, призом зрительских симпатий города Славгорода.

Нарыс

# ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА

## Кіраўнікі раёна

## ШТО ЗА "ПТАХА" ЗАЛЯЦЕЛА?

ПАМЯТАЮ, як ён прыбыў у Бабруйскі раён, упершыню з'явіўся на адну з вытворчых нарад. Ладна збіты, каржакаваты, з гладка прычэсанымі назад чарнявымі валасамі. Калі-нікалі, каб нешта разгледзець ці прачытаць, шпаркім рухам накідваў акуляры – упаўне начальніцкі выгляд, угадвалася школа. "Ды гэта ці не той Страйбулаў, — падумалася, — які прыйшоў на калгас імя Някрасава?" "Ён самы", — падказалі мне. "Цікава было б прыгледзецца: што за "птаха" заляцела ў нашы краі..."

Як аказалася, Страйбулаў хапіў кіраўніцкіх пасад, будучы на чале калектыўных гаспадарак і райсельгасупраўлення. "Такі расштурхае ўсіх і ўзнімецца над кіраўніцкім корпусам раёна", — нешта не мог я супакоіцца, відаць, нейкая рэўнасць прабівалася. Але той і не збіраўся выстаўляцца. Нароўні з усімі. Слухаў і слухаўся. Падначальваў і падначальваўся. Усё рабіў, што ад яго патрабавалася. Праўда, аўтарытэт браў сваё. Гляджу: і той каля яго, і другі, трэці. Аднаму дапамог тэхнікай, другому – запчасткамі, трэцяму – парадай, сяброўскай падказкай. Быццам бы і не зварухнуў, а во, бачыце, само ішло!

Тым больш, што і гаспадарка, на якую стаў, паступова выроўнівалася, набірала моцы. "Лейцы" падкруціў, той-сёй, праўда, "дыбіўся", наравіўся, але вымушаны быў падпарадкавацца агульным правілам. Затое сяўба – учас, уборка – таксама. На агратэхніку налягалі. Вунь ужо і на рэспубліцы забачыліся, МТЗ у якасці заахвочвання адхапілі, механізатар Пятро Бандарчук пацягнуў на заслужанага работніка сельскай гаспадаркі рэспублікі! "Цаліну" пераворвалі, пра кармы дбалі. Нездарма ж жывёлагадоўчая галіна, асабліва свінагадоўля, якая і раней някепска стаяла, а пасля рэканструкцыі памяшканняў, укаранення "шведскага" стала, і зусім пайшла на ўздым. Другія, трэція па гэтай частцы ў раёне. Капейчына завялася. Зарплата – без затрымак, якая, да слова, і па сённяшні дзень выдаецца рэгулярна. "Да нас прыйшоў гаспадар!" – пачалі гаварыць людзі.

## ПАНАЗІРАЕМ ЗБЛІЗУ

ВОСЬ тады мы і вырашылі, так бы мовячы, зблізу паглядзець на Страйбулава, пазнаёміцца з яго стылем работы, упраўленчымі метадамі. Непасрэдна завіталі ў гаспадарку. Кіраўніка заспелі, а якраз распачыналася веснавая сяўба, на самай "гарачай" кропцы – мехдвары. Здалёк быў чуваць яго гучны, раскацісты голас: ці то каго ўшчуваў, ці то даваў каманду, заклікаў. Да нас выйшаў, хаця і ўзбуджаны, але цвёрды і перакананы:

— Чым магу служыць?

Добра пахадзіўшы каля Страйбулава, мы зразумелі, што маем справу не проста з кіраўніком, а з нечым большым – талентам, даравітай асобай. Старшыня быў у курсе ўсяго, любую лічбу, не трэба і бухгалтара, эканаміста, мог назваць. "Рэнтабельнасць за мінулы год? — перапытваў. – 15,1 працэнта, лепей выглядала раслінаводства – 29, прыбытак – 6 мільярдаў 569 мільёнаў рублёў, звольнілася – 4, прыйшло на работу – 14. Памерла столькі, нарадзілася столькі, у таго ў сям'і так, у гэтага гэтак. Здавалася, ўсё ведаў, нічога не прамінаў. Нешта даўнавата не сустракаў такіх няўрымслівых, апантаных. "Я павінен, абавязаны!" У пяць гадзін – ужо на работу (хаця, здавалася, колькі ад гораду тае язды – і паўтара дзесятка кіламетраў не будзе). Дняваў бы тут і начаваў. Абыйдзе, праверыць, асабіста пераканаецца, разам з тым падмяняць нікога не збіраецца – абы тыя цягнулі.

— Эх, — казаў з горыччу, — мне б гадкі з два, тры назад прыйсці на гаспадарку, калі не ўсё было развалена, лялечку з яе зрабіў бы!

## ВОСЬ ТАКІ ЁН!

*... У СТРАЙБУЛАВА не было службовай аўтамашыны, як гаворыцца, выездзілася, гляджу, ужо раскатваецца на чорнай, начальніцкай "Волзе"... Адкуль? Дасталася, па нейкіх каналах ледзьве не ад Магілёўскага губернатара – ну,*



***ЛЮБЛЮ цікавых людзей, самабытных. Мне здаецца, што з такіх Уладзімір Рыгоравіч Страйбулаў, старшыня калгаса імя Някрасава. Ёсць у ім нейкі "магніт", прыцягальная сіла. Як у раёне якая нарада, злёт, іншае мерапрыемства – шукаю яго. Ужо і пашуткуем, і насмяемся, і сур'ёзную размову павядзем. Ад свайго субяседніка заўжды чакаеш свежых, непакамечаных думак, нечаканых вывадаў, абагульненняў. Ён рэдка калі прамахваецца. Адразу – у цэль!***

*хадак!*

*Не хапала кадраў, ведама, гаспадарка – прыгарадная, ды і ў ранейшыя гады іх падразгубілі. Да чаго дадумаўся старшыня: праз тутэйшых жыхароў выходзіць на іх родзічаў, блізкіх у Казахстане, на Украіне і перацягвае да сябе. Паціхеньку смокча і смокча – во хітраван!*

*Майстраваў сабе дом у Іванаўцы. Ужо ледзь не ўсяленне. Як раптам аддае яго брыгадзіру трактарнай брыгады... "Таму, — кажа, — болей патрэбен." Дык жа ці не дзівакаваты чалавек?*

І тое, аб чым мы гаварылі вышэй, і гэтыя факты ў большай ці ў меншай меры характарызуюць Страйбулава, дабаўляюць "штрыхоў" да яго партрэта. Час, абстаноўка, якая склалася, абавязваюць "круціцца", рабіць неардынарныя захады. Але дарма хто падумае, што някрасаўскі старшыня прастачок, як нечага абвесці – у яго ўсё загадзя ўзважана, пралічана. Ён, бы той спрактыкаваны шахматыст, на некалькі хадоў бачыць наперад. Галоўнае – канчатковы вынік. Да яго грабе і грабе. Праўда, іншым разам можа і "падплаксівіць": маўляў, тое не так, другое, а на самой справе – усё інакш. Відаць, гэта ўваходзіць у яго разлікі, тактыку, стратэгію.

## ПАЧЫНАЛАСЯ НЕ ЎЧОРА...

КАНЕЧНЕ, сённяшні Страйбулаў пачынаўся не ўчора, пазаўчора, а значна раней. Пэўна, з нараджэння, з матчыным малаком. Дабавіў тэхнікум, вучоба ў Бельсельгасакадэміі. А развіла, умацавала лепшыя якасці практыка, яго работа ў Лёзненскім раёне Віцебскай вобласці, куды трапіў па размеркаванню.

Спачатку – эканаміст у адной з гаспадарак, а потым яго перакідваюць на калгас "Радзіма" (пасля ўз'яднання з яшчэ адной гаспадаркай ён будзе насіць назву "Рассвет"), які, здавалася, прапісаўся ў адстаючых. Трыццаць трэці старшыня, ледзьве не штогод мяняліся кіраўнікі... Думалі, і гэтаму канцы, а ён "выплыў", зубамі ўчапіўся, мёртвай хваткай – так хацелася даказаць, што ты чагосьці варты!

Не будзем гаварыць, якімі метадамі, спосабам, бо стыль той жа: справе – да канца, але неўзабаве гаспадарка стала лепшай у раёне, па многіх тэхніка-эканамічных паказчыках займала вядучыя пазіцыі. За даволі непрацяглы час удалося пабудаваць КЗС-10, дзве напольныя сушылкі, майстэрню, гараж, рэканструяваць жывёлагадоўчыя памяшканні на 1500 галоў, узвесці два детсады, іншыя аб'екты. Па тым часе, у сямідзесятыя гэта было немалым дасягненнем. Далёка не ў кожнага так. Вось вам і адзін чалавек, адна асоба – многае значыць!

Тады і вылучылі Страйбулава, як моцнага гаспадарніка, на райсельгасупраўленне, якое ўзначальваў чатыры гады. А потым...

Потым так склалася, што вымушаны быў вярнуцца на радзіму, у Чэрыкаўскі раён, стаў ля руля мясцовага калгаса "Ударнік". І – тым жа шляхам, той жа сцежкай: арганізацыя – будаўніцтва – чалавек. Ну тут ён і зусім разыйшоўся! Асабліва налягаў на сацкультбыт, ствараў для людзей належныя ўмовы, затрымліваў кадры. Укалвалі, як трэба. Не шкадавалі ні сіл, ні сродкаў. Дык жа і пахваліцца было чым: 42 кватэры, інтэрнат, Палац культуры, музшкола, дзетсад, кафэ, сталовая, лазня з плавальным басейнам, 12 км. асфальтаваных дарог – так раскруціўся, што ого!

І далей бы развівацца, па ўзыходзячай, калі б не Чарнобыльская навала, не падтрапілі пад радыяцыю. Воблака, само села ці яму дапамаглі, — прама на іх, на Вепрын, Чудзяны, іншыя навакольныя вёскі, што стануць сумна вядомымі, пра якія будуць гаварыць па радыё і тэлебачанні, пісаць у газетах. Двойчы, скажам, кладуць таўшчэзны слой асфальту на тэрыторыі дзетсада – 48 кюры... Уцякай і не аглядвайся, дык Уладзімір Рыгоравіч яшчэ пяць гадоў з лішкам (!) заставаўся ў гаспадарцы... "Ну як кінуць людзей? — гаварыў. — Я так не магу"... Праз сваё здароўе, асабістыя інтарэсы, але быў да таго часу, са жменькай механізатараў упраўляўся, пакуль не адсялілі апошняга жыхара – маленькі чалавечы подзвіг, пра які мы і не заўсёды згадаем...

## ШТО МОЖА І ЧАГО НЕ

ВОСЬ так і аказаўся Страйбулаў на Бабруйшчыне, нейкі час перабіўшыся ў Клічаўскім раёне. Шосты год – на калгасе імя Някрасава. Так, маштабаў, якія былі раней і да якіх звычны, няма. Але што можа, тое і робіць. Нават праз "немагу". Паставіў гаспадарку. Яна на хаду. "Ехаць" можна. Толькі наперад узірайся ды вызначай курс. Вунь сёлета яшчэ 300 гектраў зямель далучылі, мо каму яны і ў цяжар, а тутэйшым землеробам – сама тое. Жніво распачыналася, някрасаўцы ў ліку трох гаспадарак раёна атрымалі вышэйшую ацэнку за падрыхтоўку да яго, і добры ўраджай знімаюць.

— Каб нам яшчэ, — казаў Страйбулаў, — хоць трохі дапамога, падтрымка, ці хоць бы не перашкаджалі: рынак, дык рынак! — зусім ажылі, па-іншаму глядзеліся б!

*Раздзяляем трывогу, непакой масцітага кіраўніка. З сельскай гаспадаркай нешта трэба рабіць. Ну зусім жа дажыліся... Мне здаецца: чым далей зацягваеш, тым горш. Потым цяжэй будзе выбірацца з той сітуацыі, у якой аказаліся. Ці ж гэтага не бачаць у "вярхах", ва ўрадзе, чаму тады ніякіх мер не прымаюць?*

Разумеем Уладзіміра Рыгоравіча і па чыста чалавечы. Ён столькі аддаў сялу, і атрымліваецца, што дарэмна ўгінаўся, падманіўся ў чаканнях? Не, ён у гэта не верыць. І не паверыць, а будзе да апошняга за яго змагацца. Колькі тых ставаць сіл. Мы ведаем: у яго – характар!

## КРЫХУ РАЗВАГ

ВОСЬ так перагортваеш старонкі біяграфіі Страйбулава і думаеш: а ці не мог бы гэты чалавек узняцца вышэй, ну, калі не міністрам, губернатарам (дарэчы, былы яго падначалены па калгасу "Рассвет" Уладзімір Андрэйчанка сёння ў Віцебскім аблвыканкаме – першая асоба), дык каля гэтага? Упаўне! Па яго сілах і здольнасцях. Мне здаецца, што Уладзімір Рыгоравіч крыху не ўпісваўся ў існаваўшую тады камандную сістэму. Ён меў сваё "я", мог адстойваць нейкія погляды, інтарэсы людзей. Не ўсім гэта падабалася...

Вось і на той жа Чэрыкаўшчыне. Задумалі мясцовыя партбосы, заручыўшыся падтрымкай вышэйшых начальнікаў, зняць Страйбулава. Маўляў, аслухваецца: калі хоча, сее, убірае не па камандзе... Нават замену яму падшукалі. Збіраюць агульны сход, а калгаснікі – ні ў якую: "Лепей гаспадарніка, чым наш старшыня, не знайсці. Ён ведае, што робіць!" Тады пенсіянераў падключылі – і тут не прайшло... Ну, як вам пасля гэтага? А Уладзімір Рыгоравіч не зламаўся, не азлобіўся, яшчэ з большай упартасцю, настойлівасцю вёў свой "Ударнік" наперад.

Ды колькі было такіх "схватак"... Хай яны застаюцца на сумленні тых, хто іх распачынаў. Страйбулаў чысты перад сабой і людзьмі, яго ні ў чым не папракнеш!

* * *

... Неяк у "Беларускую ніву" паступіў зварот ад працаўнікоў ужо знаёмага нам калгаса "Рассвет" Лёзненскага раёна: "Просім вярнуць нам былога старшыню У.Р. Страйбулава"... Уладзімір Рыгоравіч захоўвае тую заметку. Яна – як дарагая ўзнагарода, рэліквія, бо што можа быць вышэй, чым прызнанне тваіх заслуг!

Спытайце ў цяперашніх падначаленых Страйбулава, у таго ж механізатара Шынкарэнкі ці ў Юдзіна, даяркі Арцеевай і іншых сумленных працаўнікоў, яны абедзвюма рукамі – за свайго кіраўніка: "Ён дапамагае выжыць. Не ведаем, хто б так яшчэ справіўся, як не наш Уладзімір Рыгоравіч!"

*ДЫК для чаго ж уся гэта "прэлюдыя", увесь гэты аповяд? Скажу. Тут ёсць зачэпка. Справа ў тым, што недалей, як праз пару тыдняў, у Страйбулава, які Уладзімір Рыгоравіч, — важная дата, юбілей. Але гэта будзе. Таму з віншаваннямі мы крыху счакаем, а з пажаданнямі не сцерпім: каб, шаноўны, глыбокапаважаны, вас яшчэ доўга не адпускала сельгасвытворчасць, людзі. Вы былі ім патрэбны. А яны – вам!*

**Мікалай ДАВІДОВІЧ,**
**лаўрэат прэміі Беларускага саюза журналістаў "Залатое пяро-99".**

*З раённага семінару*

# ТЭХНАЛОГІЯ ПРОСТАЯ, А ВЫНІКІ АДМЫСЛОВЫЯ

Кажуць, куранят па восені лічаць. А цялят? Аказваецца, не – хутчэй зімой і вясной, хаця ў дбайных гаспадароў на фермах прыплод можа быць круглы год. На жаль, у гэтай справе жывёлаводы нашага раёна нейкімі адметнымі дасягненнямі не могуць асабліва пахваліцца.

У гэтай сувязі ўспамінаюцца лічбы са справаздачы аб ходзе мінулай зімоўкі, а таксама пачутыя на традыцыйным семінары, прысвечаным пытанням жывёлагадоўлі, што адбыўся ў мінулым месяцы на базе калгасаў "Перамога" і імя Някрасава. Дык вось, да прыкладу, за студзень сёлета ў калгасе імя Фрунзе і саўгасе "Дойнічава" выбыццё маладняку склала 100 працэнтаў да прыплоду. Гэта значыць, што ў жывых фактычна не захавалася ні адно народжанае цяля. За пяць жа месяцаў бягучага года іх было атрымана на фермах 5162 галавы, што на 322 цяляці менш, чым за такі ж перыяд летась. Да такога становішча, як адзначалася на тым семінары, прывялі высокая ялавасць кароў і вялікае выбыццё маладняку, якое ў асобных гаспадарках дасягала 80 працэнтаў.

І вось ужо прайшло больш як паўгода. Ці змянілася становішча з захаванасцю цялят на фермах? На жаль, са шкадаваннем прыходзіцца канстатаваць, што прыкметных зрухаў у лепшы бок не назіраецца. За шэсць месяцаў у сярэднім па раёну іх непрадукцыйнае выбыццё склала 37 працэнтаў да прыплоду. Толькі ў некаторых гаспадарках гэты паказчык больш-менш здавальняючы: да прыкладу, у саўгасе "Кісялевічы" ён склаў за мінулы час 11 працэнтаў, а на птушкафабрыцы яшчэ лепшы – 5 працэнтаў. А калі няма цялят – лічы, гэта крок назад. Хіба ў такім выпадку можна весці нейкую размову аб належным абнаўленні дойнага статка, а заадно аб павелічэнні выхаду малака і мяса? Вядома ж, не.

Такая вытворчая сітуацыя ў жывёлагадоўчай галіне прымусіла задумацца як спецыялістаў райсельгасхарчу, так і кіраўніцтва раёна. І варта адзначыць, што ў першую чаргу па ініцыятыве старшыні райвыканкама Міхаіла Левакова апошнім часам былі прыняты экстранныя і кардынальныя захады, каб карэнным чынам змяніць такое становішча. У гэтым прыйшлося пераканацца, пабываўшы на раённым семінары, які на мінулым тыдні адбыўся на базе саўгаса "Кісялевічы". Галоўным прадметам размовы на ім стала пытанне па арганізацыі ўтрымання і кармлення цялят, а таксама па асваенню тэхналогіі машыннага даення кароў новымі апаратамі "Нурлат".

Вёў гэты семінар, на які былі запрошаны кіраўнікі калгасаў і саўгасаў, а таксама галоўныя зааветспецыялісты гаспадарак, старшыня райвыканкама Міхаіл Левакоў. Непасрэдныя ж парады, рэкамендацыі і тлумачэнні прысутным па новаму даільнаму абсталяванню і новай тэхналогіі ўтрымання маладняку давалі: прадстаўнік фірмы "Петратрэйт" з Санкт-Пецярбурга Р.М. Хаменка і намеснік галоўнага інжынера завода "Гомельагракамплект" І.В. Астапенка, намеснік начальніка райсельгасхарчу па жывёлагадоўлі А.В. Осіпаў, галоўны ветурач раёна В.В. Пазняк і майстар вытворчага навучання вучэбнага камбіната райсельгасхарчу У.С. Пуцят.

Уласна кажучы, гэта быў не зусім звычайны семінар – хутчэй яго можна назваць вучобай кадраў новым прыёмам работы. Аднак не будзем забягаць наперад – аб усім па парадку.

Чатыры новыя даільныя апараты санкт-пецярбургская фірма прадаставіла жывёлаводам саўгаса "Кісялевічы" для вытворчага апрабавання і ацэнкі іх тэхналагічнай якасці яшчэ месяц назад. Новае абсталяванне мясцовыя даяркі пачалі асвойваць пад кіраўніцтвам майстра вытворчага навучання вучэбнага камбіната райсельгасхарчу Уладзіміра Пуцята. Як і звычайна гэта бывае, на першым часе навінка не выклікала асаблівай зацікаўленасці ці захаплення ў работніц цэнтральнай фермы гаспадаркі. Аднак, калі яны навучыліся прыёмам работы з апаратам "Нурлат", меркаванне аб ім істотна змянілася. На семінары даяркі гаварылі, што лепшага і не прыдумаеш.

Па-першае, кожная з іх можа адразу працаваць з чатырма такімі апаратамі – і без усялякіх непрыемных паследстваў для жывёлы. Па-другое, з дапамогай іх дасягаецца поўнае выдойванне кароў, прычым прадуктыўнасць буронак узрасла прыкладна на 15 працэнтаў, як паведаміў Уладзімір Пуцят. Ну, і нарэшце, прымяненне такога даільнага абсталявання дазваляе практычна пазбегнуць узнікнення масціту ў кароў, што нярэдка мае месца пры выкарыстанні апаратаў старога пакалення.

Гомельскія канструктары таксама завяршылі распрацоўку новага даільнага апарата, і хаця з ім удзельнікі семінару не маглі пазнаёміцца ў час гэтай вучобы, аб яго якасцях расказаў прадстаўнік завода. Мяркуецца, што айчынная навінка таксама пройдзе вытворчае апрабаванне на фермах нашага раёна, і тады будзе аддадзена перавага аднаму з гэтых апаратаў. Карацей кажучы, малочную галіну чакае тэхнічнае пераўзбраенне. Але гэта яшчэ наперадзе.

А вось новую тэхналогію ўтрымання і выпайкі нованароджаных цялят у саўгасе "Кісялевічы" ужо пачалі асвойваць у поўным сэнсе гэтага слова. Тэхналогія – нямецкага паходжання. Яна зусім простая, а вынікі дае надзвычай высокія: практычна да мінімуму зводзіцца гібель прыплоду, узрастае яго захаванасць і маладняк радуе стабільнымі прывагамі.

Калі коратка, то ўсё гэта выглядае так. Нованароджаных цялятак адразу ж пасля ацёлу забіраюць ад кароў – маці і размяшчаюць у спецыяльна абсталяваных драўляных клетках-станочках на вуліцы, якія дазваляюць іх там утрымліваць аж да 20-градуснага марозу. Першыя два-тры дні даяркі прывучаюць цялят да соскі, а потым ужо тыя карыстаюцца імі самастойна і п'юць скісленае мураўінай кіслатой малако – колькі хочуць і калі адчуваюць у пойле патрэбу. Для гэтага станочкі і аснашчаны такімі соскамі і бачкамі, у якіх пастаянна знаходзіцца скісленае малако.

Эксперыментальная група з шасці цялят (менавіта столькі пакуль было змайстравана клетак для іх у саўгасе) паказала выдатныя вынікі. За тры тыдні такога ўтрымання і выпайкі прывагі кожнай галавы склалі ў сярэднім за суткі 720 грамаў. Пры нашым жа традыцыйным спосабе ўтрымання, які практыкуецца на фермах, гэты паказчык звычайна бывае ў два разы меншы. Самае ж галоўнае, што такі метад, як адзначалася на семінары, дазваляе забяспечыць прыплод на першых днях жыцця дастатковай колькасцю бялку, а гэта потым станоўча адбіваецца на далейшым росце і фарміраванні маладняку.

У такіх клетках маленькія цялянкі ўтрымліваюцца да 21 дня, ад сілы – месяц, у залежнасці ад крэпасці нованароджаных. А затым удзельнікам семінару паказалі, як лепш гадаваць цялят да ўзросту чатырохпяці месяцаў. Такая тэхналогія шырока выкарыстоўваецца на Віцебшчыне і няблага сябе зарэкамендавала. А сутнасць яе заключаецца ў тым, што гэтая катэгорыя маладняку ўтрымліваецца ў спецыяльна абсталяваных станках са шчылінай падлогай, якія ўзняты ад падлогі памяшканняў на паўметра ў вышыню. У такіх станках нават без подсцілкі заўсёды суха, што дазваляе стварыць аптымальныя санітарна-гігіенічныя ўмовы ўтрымання і здаровы мікраклімат.

Адным словам, на гэты раз семінар прайшоў як ніколі насычана і змястоўна. Вучоба аказалася карыснай ва ўсіх адносінах. Цяпер галоўным тэхнолагам жывёлагадоўчай галіны і кіраўнікам гаспадарак трэба на практыцы прымяніць набытыя веды і вопыт. Гэтага патрабуе час, бо неабходна істотным чынам папраўляць становішча ў жывёлагадоўлі раёна. І новыя вытворчыя тэхналогіі даюць такую магчамасць.

**М. БОСАК.**



*Ивановка и ивановцы.*

Фото Б. ВАРФОЛОМЕЕВА.



*Бобруйскому сортоучастку — 60*

# ХОРОШИЕ СЕМЕНА – ЗАЛОГ ХОРОШЕГО УРОЖАЯ

***В этом году исполняется шестьдесят лет, как в д. Телуша был создан Бобруйский сортоучасток. Он организован, согласно постановлению Белорусского комитета по государственному испытанию и охране сортов растений. Как бы тяжело не было, какие бы преобразования не происходили в сельском хозяйстве, а отрасль эта не забывается государством, получает всякую поддержку. Ведь известно, что основа урожая – это хороший сорт той или иной культуры. Но для того, чтобы она прижилась, получила широкое применение, ее нужно испытать, проверить, насколько она подходит к конкретному региону и почвенно-климатическим условиям выращивания. Этим и занимается коллектив сортоучастка, которым вот уже двадцать два года руководит Владимир Михайлович Станько.***

***Сортоучасток расположен на землях колхоза им. Мичурина. Он занимает 63 гектара. На нем введен шестипольный севооборот, благодаря стараниям и упорству Владимира Станько, его научной мысли. Под стать ему и его помощник старший агроном Светлана Николаевна Прокопенко. На участке применяется вся агротехника, химзащита растений, достижения науки в области растениеводства. По почвенно-климатическим зонам сортоучасток обслуживает хозяйства восьми районов Гомельской области, а также Кировского, Кличевского и Бобруйского районов.***

За последние пять лет на базе участка было испытано около шестисот сортов различных культур. Внедрено в производство 25 сортов. Это такие как пшеница озимая – Копылянка, Чемпион, Гродненская -7, Здабытак, гречиха Падарунак, ячмень пивовареный Заря, яровой Белорусский и многие другие. Здесь ведутся также большие работы с новыми сортами льна, свеклы, раннего картофеля и зернобобовых культур.

Тяжелый и кропотливый это труд. Как говорится, на одних только знаниях да хотении далеко не уедешь. Нужны еще упорство, любовь к избранному делу, добросовестное отношение к нему и, можно сказать, дар божий у тех людей, кто этим занимается.

И вот мы на полях сортоучастка. Взгляду предстали ровные, под шнурок, похожие одна на другую, делянки. Каждая из них под своим номером. Аккуратные, ухоженные, они радуют глаз, тешат душу. Видно, что здесь работают хозяева.

— И по сколько центнеров с гектара выходит той или иной культуры? — Задаю я вопрос Владимиру Станько.

— Средний урожай товарного картофеля составляет сейчас 200-280 центнеров, ячменя получаем – 35-45, а вот, к примеру, зимний тритикале дает у нас до 60-ти центнеров зерна с гектара. Можно было бы иметь и лучшие результаты, но сказывается нехватка удобрений, химических средств защиты растений и погодные условия. Все это несколько снижает уровень урожая, сдерживает наши возможности, – отвечает Владимир Михайлович. – Такую урожайность нам дают те культуры, которые уже адаптировались в наших условиях и отработана их агротехника выращивания. Эти сорта мы широко внедряем в производство, рекомендуем их хозяйствам.

Такой урожай работники участка получают за счет рационального применения минеральных и органических удобрений. Они постоянно ведут борьбу с сорняками, вредителями и болезнями культур. Но бывают и такие сорта, которые несмотря на старательный уход урожаем не радуют. Их сразу же исключают из производства.

За сортом, полученным на испытание на сортоучастке, можно сказать, ухаживают как за маленьким ребенком. Семена проверяются в лабораторных условиях на качество, их отношение к температурным режимам, влаге. Потом, испытанные и проверенные, они заправляются в почву. Здесь продолжается наблюдение за их всхожестью, развитием ростка, его отношением к окружающей среде. Все наблюдения и результаты заносятся в технологическую карту. На основании этого и делается вывод – сорт получился хороший или...

— За последние три года, — рассказывает Станько, — мы испытали 30 сортов озимой и яровой пшеницы, 37 – озимой ржи, 80 – гречихи и 17 сортов картофеля. В этом году начали изучать сортовую технологию выращивания яровой пшеницы Квиза, Дарья, Роста с различными нормами высева. Осенью заложим опыт озимой пшеницы. Ведем испытание сортов льна, овса. По предложению нашего сортоучастка в будущем году в хозяйствах нашей зоны будут внедряться такие сорта яровой пшеницы как Ростань, Экватор и Контэкс, ячменя – Этол и Тюрингия, овса – Чакал, картофеля – Одиссей и Дина. Появится на полях свекла сортов Даринка и Ветра.

Результаты работы Владимира Станько и Светланы Прокопенко радуют, от многих хозяйств в их адрес идут благодарности. Да и в этом году, несмотря на заморозки и засуху, их делянки дают неплохой результат. С самого неудачного участка в пробной жатве яровой ячмень сорта Этол дал около 35-ти центнеров зерна на круг. Это в то время, когда здесь рассчитывали на 25 от силы. В будущем году на сортоучастке намерены опыты расширить. Благо, для этого есть все условия. По заявке сюда из центра прислали малогабаритную технику для обработки почвы и посева. Это – культиваторы, сеялки, плуги, бороны...

— Нас обеспечили запчастями, минеральными удобрениями, химсредствами, — итожит разговор Владимир Михайлович. — Как никогда, в этом году мы хорошо подготовились к уборке и, думаю, проведем ее на высоком уровне. Если видишь, что о тебе заботятся, то и работается с настроением, — сказал он в заключение.

Мне же остается добавить: да, у этого небольшого коллектива есть стремление именно так, с огоньком трудиться. Поэтому думается, что Бобруйский госсортоучасток порадует сельское хозяйство Белоруссии еще многими своими достижениями и новыми перспективными сортами различных культур, которые получат здесь производственную прописку на поля, в том числе и нашего района.

**Василий КОСТЯН.**

*Невероятно, но факт*

# ПОЛТЕРГЕЙСТ В БОБРУЙСКЕ

Свидетелями необычайного явления, происходившего в одном из частных домов Бобруйска, стали спасатели МЧС.

В полночь с 13 на 14 июля, после того, как хозяйка с внучкой, посмотрев телевизор, легли спать, в их доме сам по себе стал включаться и выключаться свет. Напуганная женщина в поисках посторонней помощи позвонила по телефону 01. Телефонистка, принимавшая вызов, лично знала эту бобруйчанку как человека трезвого ума. Поэтому спасатели отправились по указанному адресу.

Пятеро взрослых мужчин, которые раз в год проходят медицинское освидетельствование, уверяют, что столкнулись с неизвестным им явлением. На их глазах вдруг с потолка полилась вода (на улице в это время дождя не было), потом посыпался песок, а затем опять стала литься вода — и так несколько раз. Внезапно во всех комнатах без видимых причин загорелись шторы. "Ожившие" носки подлетели к люстре и сами завязались на ней узлом. В доме стала двигаться без посторонней помощи тяжелая мебель. А губная помада, взлетев в воздух, принялась за самостоятельные художества на стенах и окнах.

Поскольку у спасателей нет средств против полтергейста, их помощь людям выразилась в оказании психологической поддержки. В общем, постояли, посмотрели и уехали... В сводке происшествий выезд зафиксирован как помощь населению. А объяснений этому необычному явлению пока нет.

## Эдуард ЯНИН

"...Сладко ли, горько ли – все же музыка жизни звучит".
**В. СОЛОВЬЕВ.**

### ВЕСЕННЕЕ УТРО БЕЛАРУСИ

*Гляжу я –*
*И никак не нагляжусь,*
*Не налюбуюсь*
*Белыми садами...*
*Мне кажется:*
*Копила Беларусь*
*Свою красивость*
*Долгими годами,*
*А накопив,*
*Показывает мне*
*(Как женщина,*
*Прекрасная без грима),*
*Сколь в утренней*
*Прозрачной тишине,*
*Цветущая,*
*Она неотразима...*
*Ни с кем*
*Картины рани не деля,*
*Я светел*
*От невольного волненья:*
*Встает земля,*
*Цветет моя земля –*
*И что прекрасней*
*Этого цветенья!*

### МУЗЫКА

1.

*Так повелось*
*Немало лет назад:*
*Я музыкою грежу*
*Поминутно...*
*То мысленно*
*Вхожу в нее, как в сад,*
*В котором*
*Мне покойно и уютно;*
*То устремляюсь*
*На свиданье с ней,*
*Чтоб отдалиться*
*От душевной хмури,—*
*Тогда душа*
*Становится ясней,*
*Как небо, источая*
*Цвет лазури...*
*Царит ли стужа,*
*Тают ли снега –*
*Я к доброй песне*
*Прибегаю снова:*
*Она мне*
*Несказанно дорога*
*Сверхволшебством*
*Мелодии и слова...*
*Бывает:*
*Растекаясь по крови,*
*Меня болезнь*
*Почти лишает шанса –*
*Тогда, отдавшись*
*Мудрости романса,*
*Я исцеляюсь*
*Музыкой любви...*

2.

*Вдали восход*
*Торжественно молчит,*
*Раскрашивая поле,*
*Лес и воды,—*
*А кажется:*
*Симфония звучит,*
*Высокая симфония*
*Природы,*
*А кажется,*
*Что нет ее конца,*
*Что властвует, кудесница,*
*Повсюду...*
*Да нежно*
*Прикасаются сердца*
*К ее*
*Неисчерпаемому*
*Чуду.*

* * *

### ЧУЖАЯ БОЛЬ

*Была во вторник утром...*
*В среду...*
*И нынче,*
*В предвечерний час,*
*Примчалась "скорая"*
*К соседу –*
*И больно*
*Омрачила нас.*
*В тревожные*
*Минуты эти*
*Мы пьем сердечное...*
*А коль*
*Все это так,*
*То на планете*
*Она больна,*
*Чужая боль.*

* * *

### РУЛАДОТЕРАПИЯ

*Страдая,*
*Я лежал в палате...*
*А за окном –*
*Среди ветвей –*
*Так неожиданно*
*И кстати*
*Запел*
*Влюбленный соловей...*
*Душою*
*Окунаясь в царство*
*Рулад,*
*Тогда отметил я,*
*Что пил,*
*Как доброе лекарство,*
*Целебный голос*
*Соловья, —*
*И голова*
*Рождала ясно,*
*Отодвигая боль*
*Слегка:*
*"Жизнь временами*
*Несладка...*
*Но, Боже,*
*Как она прекрасна!"*

* * *

### ВОСПОМИНАНИЯ ОБ АПРЕЛЕ

*Позади*
*Хрустальный звон капели...*
*Мысль к теплу*
*Выруливает бодро...*
*А покуда*

*Поздно или рано*
*Нам должно, думаю,*
*Извлечь*
*Урок*
*Из нашего романа –*
*Его печальные*
*Черты*
*Сродни той истине*
*Извечной,*
*Что в нашей жизни*
*Скоротечной*
*Любовь*
*Не терпит суеты.*

* * *

*В метельный день*
*В минувшем январе*
*Больная женщина*

*"Это, братцы,*
*Просто срам..."*
*Приумолкли гости*
*В зале,*
*А потом в ответ*
*Сказали,*
*Мигом вспомнив*
*Про кровать:*
*"Шел бы ты, хозяин,*
*Спать".*
*Дед, конечно,*
*Возмутился*
*Да за грудь*
*Рукой схватился –*
*Так кольнуло*
*От всего*
*Сердце хворое его.*
*Видя дедушкины муки,*

**Наши юбиляры**

# МУЗЫКА ЖИЗНИ



***Наверное, никто не обидится, если мы скажем, что уже довольно продолжительное время под номером один среди наших внештатных корреспондентов стоит Эдуард ЯНИН, бывший работник районного музея. Он поддерживает самую тесную связь с редакцией, часто публикуется, пишет на разные темы. Да, было, что и серчал, и несколько отходил от нас, но всегда возвращался.***

***Видимо, мы ему все же ближе. И по тематике, по душевному восприятию, настроению. Это приятно осознавать.***

***Всегда рады приветствовать Эдуарда Александровича. Тем более, что этими днями он отмечает свое 65-летие.***

***Новых тебе удач, дружище, творческих свершений. Береги себя и свою супругу!***

*В пасмурном апреле*
*Мы живем*
*Надеждою на ведро,*
*А покуда*
*К нам из заграницы,*
*Словно*
*Многокрылая отрада,*
*Как и раньше,*
*Прилетают птицы,*
*Гомоня,*
*Что все идет*
*Как надо...*
*Если так –*
*В груди исчезнут тени,*
*Лишь дожди*
*Натешатся немножко.*
*Если так,*
*То запахом сирени*
*Вспыхнет куст*
*У моего окошка...*

* * *

### ЛЮБОВЬ НЕ ТЕРПИТ СУЕТЫ

(Поэтическое переложение письма, найденного в номере гостиницы)

*Я снова*
*Получил от Вас*
*Письмо,*
*Подобное печали...*
*Как жаль,*
*Что вы не отвечали*
*Мне прежде,*
*В подходящий час...*
*Мне нравились*
*Ваш бюст и стан,*
*И гибкий ум Ваш*
*Был по нраву...*
*И все же –*
*По какому праву*
*Я верил*
*В пламенный роман?*
*Я думал:*
*Мы сойдемся вновь,*
*Друг друга радуя*
*Сердечно.*
*Увы!*
*Была недолговечна*
*Тогда*
*Курортная любовь.*
*Вы с кем-то*
*Встретились опять*
*(Поверю: может,*
*Сверх желанья) –*
*И как Вам*
*На мои посланья*
*В то время*
*Было отвечать!..*
*А нынче –*
*Я не одинок.*
*И без лукавств*
*Скажу заране:*
*В моем*
*Душевном океане*
*Вы –*
*Живописный островок,*
*Затерянный*
*В тумане где-то...*
*Ипотому*
*Простите мне,*
*Что не отыщете*
*В письме*
*Желанного для Вас*
*Ответа.*
*Но все же,*
*Завершая речь,*
*Замечу:*

*Лежала на одре.*
*Да с болью*
*Многоликая родня*
*Сидела близ,*
*Молчание храня...*
*И к вечеру,*
*С трудом цедя слова,*
*Сказала уходящая*
*Едва:*
*"Опять метет*
*Во всю шальную прыть...*
*Ах, как вам трудно*
*Будет хоронить..."*

* * *

### ЗВЕЗДНОЙ НОЧЬЮ

*Не сменяя*
*Восторженной позы,*
*Под березой стою*
*У пруда...*
*На безлистой*
*Верхушке березы*
*Засиделась*
*Большая звезда.*
*(Звезд на небе –*
*Не вычерпать даже*
*За столетье*
*Небесным Ковшом...)*
*Черный дуб,*
*Точно воин на страже,*
*На пригорке стоит*
*Небольшом.*
*Словно в музыку*
*"Лунной сонаты",*
*Погружается*
*Сонная даль –*
*Юный месяц*
*Далекие хаты*
*Наряжает*
*В седую вуаль...*
*...Я стою,*
*Убеждаясь воочью:*
*Все волшебно,*
*В подзвездной тиши –*
*И прохладной*
*Апрельскою ночью*
*Нарождается*
*Праздник души.*

* * *

### БЫЛИ ГОСТИ В ДЕНЬ РОЖДЕНЬЯ

(Детский взгляд на взрослые обстоятельства)

*— В воскресенье*
*Гости были*
*У дедули моего...*
*Неторопко*
*Ели, пили*
*И торжественно*
*Хвалили*
*Угощение его...*
*Но потом*
*Хмельные дяди*
*Стали петь,*
*Чего-то ради*
*Беззастенчиво*
*Стократ*
*Приплетая*
*В песни мат.*
*Позже*
*Спели про такое,*
*Что лишился дед*
*Покоя*
*И промолвил*
*Песнярам:*

*Гости дедушку под руки*
*Подхватили, говоря:*
*"Это ты, хозяин,*
*Зря".*
*Уложили на диване,*
*Приказали*
*Бабе Мане*
*Очень строгим*
*Языком:*
*"Последи за стариком..."*
*И – ушли...*
*А мы не спали –*
*Ночью*
*Деда врачевали...*
*Потому*
*Дедуля мой*
*Нынче*
*Все-таки живой...*
*...Я ж теперь*
*Такого мненья:*
*Если гости*
*В день рожденья*
*Начинают*
*Спьяну петь –*
*Можно даже*
*Умереть.*

* * *

### ЦЕЛИТЕЛЬНАЯ СИЛА КРАСОТЫ

*Приволье –*
*Без конца и края!*
*И небосвод, и облака*
*В прохладной глади*
*Отражая,*
*Незримо*
*Движется река.*
*Повсюду*
*Осени приметы:*
*Березы*
*В золото одеты,*
*Рыжеет*
*Каждая верста...*
*Неповторимые места!..*
*Когда нам*
*Горестно и больно,*
*Мы постигаем в них*
*Невольно,*
*Как исцеляет*
*Красота.*

* * *

### КИНОМЕЛОДРАМА

*Мечутся герои*
*По экрану.*
*Все у них, как видно,*
*Позади...*
*— Я тебя*
*Удерживать не стану, —*
*Говорит он. –*
*Впрочем, погоди...*
*— Ненавижу, —*
*Был ответ. Сказала*
*И ушла.*
*И не вернулась вновь...*
*И, печальный,*
*Выходя из зала,*
*Кто-то бросил:*
*— Отцвела любовь...*
*"Жизнь – не сад, —*
*Подумал я, — но все же*
*Жить любя –*
*У всех у нас в крови...*
*Потому-то*
*Не лишай нас, Боже,*
*Вечного цветения*
*Любви..."*

***І жартам, і ўсур'ёз***

# ВЯСЁЛЫ РЭЙС

27 чэрвеня, 16 гадзін. Жоўты аўтобус з шыльдай "Бортнікі", загружаны пасажырамі пад завязку, хіляючыся з боку на бок, падрулліў да прыпынку, што каля вузла сувязі на Мінскай вуліцы.

— Яшчэ ўмесцім 4-5 чалавек, не болей, — выгукнула кандуктар у адчыненае вакенца аўтобуса.

Натоўп, каля чатырох дзесяткаў чалавек, рынуўся да дзвярэй рэйсавага. Усчаўся пасадачны вэрхал.

— Дачнікаў не пускаць! У іх ёсць свой аўтобус, — закрычаў мужык з чырвоным носам у кедах на босую нагу і стаў прабірацца наперад, штурхаючы ўсіх лакцямі. Ён ужо падняў правую нагу, каб ступіць у салон, як мужыкі, якія лезлі ў аўтобус справа, бадзёра націснулі, і той з паднятай нагой адляцеў у бок.

— А мы што, бабы! — завішчала злева пісклявым голасам адна кабета. – Давай надавім!..

Гурт жанчын з усёй сілы тузануў мужыкоў і зрушыў іх з месца. Размаляваная фіфа ў спадніцы "вышэй падняць няма куды" нечакана слізганула ў салон аўтобуса. За ёй пажадала праскочыць мажная рыжая кабета, мусіць, пудоў на шэсць, з тлустым азадкам. Але натоўп прыдавіў яе да дзвярэй так, што нельга было падняць нагу. Атрымаўся затор – ні туды ні сюды.

— Во бабы даюць, га? — грымнуў басам падобны на Клінтана мужык. – Дай хто-небудзь ёй выспятка, дык цмыгне, як маладая, — прапанаваў ён.

Трое мужыкоў сталі дапамагаць жанчыне залезці ў аўтобус, але здолелі падняць ёй толькі "кузаў", а хадавая частка засталася на зямлі, ніяк не зрушыць. Нарэшце яна на кукішках з дапамогай мужыкоў залезла ў транспарт. Зноў пачалася таўханіна. Заднія напіралі на пярэдніх, пярэднія рваліся да дзвярэй.

— Прапусціце мяне, панове-спадары, я з Баршчоўкі, — узмаліўся дзед з белай барадой да пояса. Яго сціснулі з усіх бакоў, адарвалі гузік ад вопраткі, і ён толькі аб адным дбаў: каб не адарвалі і бараду.

У гэты час худзенькі мужычок з адной медалькай на грудзях, з крыкам: "У вайну я не такія перашкоды браў", — узяў разбег і таранам кінуўся на натоўп, але прасунуўся толькі на метр. Тады ён стаў выкавырваць з натоўпу нейкую цётку, якая перакрыла яму шлях.

— Куды прэш, стары хрэн? А ну, адпусці! Я еду да Слабады, — крычала раз'юшана тая.

— Мне да балды, што ты едзеш да Слабады. Я еду далей, — стаў напіраць франтавік.

— Куды ты едзеш, дзед? — закрычалі з натоўпу.

— Гэты ваяка, едзе да Барака! — у рыфму сказаў малады хлапец і захіхікаў. Але на яго жарт ніхто не звярнуў увагі.

— Мужчына, не дыхайце на мяне перагарам, я ўжо і так ад вас ап'янела! — паскардзілася адна кабета, якая напірала злева.

— Дык ты яшчэ і не задаволена? Скажы дзякуй, што забалдзела "на халяву", — адказаў мужык у капелюшы з чырвоным носам, які націскаў на яе ззаду.

Тым часам людзі з цяжкасцю, але адзін за другім залазілі ў аўтобус.

— І чаго ты, хлапец, з вудамі прэшся ў аўтобус. Купі рыбы ў магазіне і не швэндайся па раёну, — бурчэла на гараджаніна размаляваная кабета з моднай прычоскай на галаве "Дуля Мічурына".

— Жартуеш, цётка? — кінуў у адказ той, прабіраючыся наперад.

— Усё жыццё марыла, як пажартаваць з табой, — бурчэла тая, сунучыся следам за рыбаком.

— Зараз мая чарга, прапусці, а то атрымаеш кулаком у нюхаўку, — затараторыў мужык з куранятамі ў скрынцы.

— Ну і напалохаў мяне. Аж лыткі ходарам ходзяць, — агрызнулася тая і нахабна пралезла ў дзверы.

Нарэшце апошні пасажыр ушчаміўся ў аўтобус. Дзверы з цяжкасцю зачыніліся, і транспарт ад цяжару ледзь папоўз, раз-пораз "кашляючы" і выпускаючы струменьчыкі дыму.

Нашы аўтобусы па дзівоснаму ўзору змайстраваны: маюць здольнасць расцягвацца, колькі б ні было пасажыраў – усе знойдуць сабе месца ў салоне. Забыўшыся крыўды і абразы, яны, як блізкія родзічы, прыціснутыя адзін да аднаго, бадай, у абдымку, задаволеныя едуць да хаты. Толькі адзін мужычок паскардзіўся:

— Што за людзі, пакуль садзіўся ў аўтобус, дык памялі маю ліверную каўбасу.

Пачуліся жарты з розных бакоў.

Мужык, які стаяў у вуглу з пахам моцных напояў, раптам гучна зацягнуў мелодыю, накшталт "Шумеў камыш..."

— Я тваю мелодыю распазнаў з сямі нот! — сказаў другі выпівоха, які сядзеў на заднім сядзенні. Раздаўся рогат.

Усе ўжо забыліся пра штурм і таўханіну, весела ўсміхаліся і жартавалі паміж сабой.

**В. ЖЫТКОЎ.**




**Бабруйская раённая газета "Трыбуна ПРАЦЫ"**
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Бабруйскі раённы выканаўчы камітэт. Раённы Савет дэпутатаў. Працоўны калектыў рэдакцыі.
**ІНДЭКС 64092. РЭГІСТРАЦЫЙНЫ № 661.**

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара. Аўтары артыкулаў нясуць адказнасць за надрукаваныя матэрыялы.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 213800, г. Бабруйск, вул. К. Лібкнехта, 49.

ТЭЛЕФОНЫ: Рэдактара – 7-34-75; адказнага сакратара і аддзела пісьмаў – 2-80-33; аддзела эканомікі і сельскага жыцця – 7-83-36; аддзела сацыяльных праблем – 2-47-02; бухгалтэрыі і аддзела рэкламы – 7-49-24.

Газета аддрукавана ў друкарні імя Непагодзіна. 213800, г. Бабруйск, вул. Сацыялістычная, 103. 7-32-05.
Нумар падпісаны ў друк 25.07.2000г. у 16-00.
**ІНДЭКС 64092. ЗАКАЗ 2640. ТЫРАЖ 1813.**

*Рэдактар Мікалай ДАВІДОВІЧ.*